*Я лічу, што патрабаванне абавязковай акрэдытацыі павінна быць адменена, бо яно рэальна абмяжоўвае магчымасці для журналістаў. І адмена гэтага патрабавання магла б значна спрасціць становішча, каб праваахоўныя органы не пераследавалі журналістаў, калі апошнія паведамляюць пра тое, што адбываецца на вуліцах... Пакуль абавязковая акрэдытацыя не адмененая, мы не можам казаць пра свабоду для СМІ ў Беларусі.*

*Дуня Міятавіч,*
*прадстаўнік Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ) па пытаннях свабоды СМІ*



# СТАНОВІШЧА Ў СФЕРЫ СМІ Ў ЛІПЕНІ-ЖНІЎНІ 2014 г.

Становішча ў сферы СМІ за апошнія два месяцы лета не змянілася. Найбольшую заклапочанасць у гэты перыяд выклікалі:

- **працяг ціску з боку ўладаў на журналістаў-фрылансераў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ;**
- **стварэнне рэспубліканскай камісіі па ацэнцы інфармацыйнай прадукцыі на прадмет наяўнасці ў ёй прыкметаў экстрэмізму;**
- **блакаванне і ўзломы сайтаў і пераслед інтэрнэт-актывістаў.**

## СТВАРЭННЕ КАМІСІІ ПА АЦЭНЦЫ ІНФАРМАЦЫЙНАЙ ПРАДУКЦЫІ НА ПРАДМЕТ НАЯЎНАСЦІ Ў ЁЙ ПРЫКМЕТАЎ ЭКСТРЭМІЗМУ

Паводле Пастановы Саўміна №810 ад 21 жніўня 2014 г. у Беларусі створаная экспертная камісія па ацэнцы інфармацыйнай прадукцыі на прадмет наяўнасці (адсутнасці) у ёй прыкметаў праявы экстрэмізму.



Аблвыканкамам рэкамендавана стварыць падобныя камісіі ў кожнай з абласцей і зацвердзіць іх склад.

Эксперты лічаць, што стварэнне экспертных камісіяў па ацэнцы інфармацыйнай прадукцыі пераносіць пытанне пра прызнанне матэрыялаў экстэмісцкімі з прававой у бюракратычную плоскасць. Пры гэтым асноўную пагрозу для свабоды выказвання яны бачаць не ў стварэнні камісіяў, а ў надзвычай шырокай трактоўцы паняцця "экстрэмізм" і "экстрэмісцкія матэрыялы" ў беларускім заканадаўстве.



gazetaby.com

**Найбольш гучнай справай у гэтай сферы было прызнанне ў 2013 г. экстрэмісцкімі матэрыяламі фотаальбома "Прэс-фота Беларусі 2011". Фотаальбом быў выдадзены паводле вынікаў конкурсу прэс-фатаграфіі Беларусі, які ладзіцца з 2010 г. У журы конкурсу ўваходзілі вядомыя фатографы з розных краінаў свету.**

## ЦІСК НА ЖУРНАЛІСТАЎ-ФРЫЛАНСЕРАЎ, ЯКІЯ СУПРАЦОЎНІЧАЮЦЬ З ЗАМЕЖНЫМІ СМІ

**18 жніўня** незалежнага магілёўскага журналіста Аляксандра Буракова па тэлефоне выклікалі ў апорны пункт міліцыі ў якасці асобы, у адносінах да якой была ўзбуджаная адміністрацыйная вытворчасць "за працу на замежнае СМІ без акрэдытацыі". Маёр Руслан Марозаў узяў з яго тлумачэнні наконт сюжэту, які выйшаў на "Белсаце" ўвосень 2013 г. Сюжэт распавядаў пра аварыйны стан аднога з дамоў у Магілёве.

Як вынікала з дакументаў справы, якія паказалі Буракову, пасля выхаду сюжэту Упраўленне КДБ па Магілёўскай вобласці правяло аператыўна-розшукавыя мерапрыемствы для ўсталявання асобаў журналістаў, якія гутарылі з фігурантамі сюжэту, - Аляксандра Буракова і відэааператара Міхаіла Аршынскага.

**19 жніўня** маёр міліцыі Руслан Марозаў правёў гутарку з журналістам-фрылансерам Міхаілам Аршынскім. Быў складзены пратакол апытання.

Міліцыянт высвятляў, ці меў М.Аршынскі адносіны да здымкаў сюжэту пра камунальныя праблемы ў горадзе Магілёў і якім чынам гэты сюжэт патрапіў на тэлеканал "Белсат".

Афіцыйны прадстаўнік тэлеканала "Белсат" у Беларусі Міхась Янчук не выключае, што павышаная ўвага да журналістаў звязаная з набліжэннем перагляду справы пра тарговы знак "Белсат". Сустрэча бакоў у судзе была запланаваная на 4 верасня.

**"Белсат" – незалежны спадарожнікавы канал, створаны ў 2007 г. паводле дамовы паміж польскім Міністэрствам замежных спраў і Польскім тэлебачаннем. Вяшчанне тэлеканала разлічанае на беларускую аўдыторыю. З моманту стварэння "Белсат ТВ" Польскае тэлебачанне шматкроць спрабавала атрымаць легальны статус у Беларусі, аднак гэтыя спробы апынуліся марнымі. Беларускія журналісты, якія супрацоўнічаюць з тэлеканалам (роўна як і з іншымі замежнымі СМІ) неаднаразова атрымоўвалі папярэджанні пракуратуры і КДБ, а з вясны 2014 г. іх пачалі штрафаваць за дзейнасць без акрэдытацыі Міністэрства замежных спраў.**

## БЛАКАВАННЕ І ЎЗЛОМЫ САЙТАЎ

У ліпені-жніўні 2014 г. былі зафіксаваныя некалькі спробаў абмежаваць распаўсюд інфармацыі ў Інтэрнэце.




**31 ліпеня** рэдакцыя сайту Міжнароднага кансорцыюму "ЕўраБеларусь" заявіла пра хакерскую атаку на рэсурс. На працягу некалькіх дзён невядомыя размяшчалі на сайце www.eurobelarus.info праваканцыйныя матэрыялы пра падзеі ва Украіне і актыўна распаўсюджвалі іх у сацыяльных сетках.

Паводле словаў рэдактара выдання Андрэя Александровіча, атака на сайт пачалася 24 ліпеня.

Супрацоўнікі сайту звязваюць гэтыя падзеі з актыўнай пазіцыяй рэдакцыі ў асвятленні расійска-украінскага канфлікту: з першых дзён супрацьстаяння на сайце актыўна напаўняецца адмысловая рубрыка "Падзеі ва Украіне. Погляд з Беларусі".




**14 жніўня** дзяржаўны правайдэр-манапаліст блакаваў доступ з Беларусі да сайту charter97.org.

Наведнікі паведамлялі ў рэдакцыю, што не могуць зайсці на сайт, але падчас выкарыстання проксі-сервера сайт быў дасяжны. Праблемы з доступам рэгістраваліся на працягу ўсяго дня.

## КРЫМІНАЛЬНЫ ПЕРАСЛЕД СЯМ'І БЛОГЕРА

**15 ліпеня** блогер з Бабруйску (Магілёўская вобласць) Алег Жалноў даведаўся пра ўзбуджэнне супраць сваёй жонкі крымінальнай справы паводле артыкула 364 "Гвалт або пагроза прымянення гвалту ў адносінах да супрацоўніка органаў унутраных спраў". Блогер сцвярджае, што ягоная жонка сталася ахвярай агрэсіўных дзеянняў супрацоўнікаў УУС, якія ладзіліператрус у кватэры Жалновых напрыканцы траўня бягучага года.

Паводле ягоных словаў, жонка спрабавала зачыніць дзверы перад міліцыянтамі, якія ўрываліся ў кватэру без прад'яўлення ордэру. Жанчыну шпурнулі на падлогу, а адзін з міліцыянтаў сцвярджае, што яна "прымяніла гвалт" у дачыненні да яго - ўцяла.



**22 ліпеня** ў Бабруйскім судзе скончыўся разгляд справы па абвінавачанні Аляксея Жалнова, сына Алега Жалнова. Суддзя Юлія Беразюк прысудзіла маладога чалавека да трох гадоў папраўчае калоніі адкрытага тыпу. Таксама Аляксей павінен выплаціць штраф у памеры 50 мільёнаў беларускіх рублёў (3,5 тысячы еўра).

Міжнародная арганізацыя "Рэпарцёры без межаў" выказала пратэст у сувязі з гэтым прысудам Бабруйскага суда. "Не маючы магчымасці прымусіць Алега Жалнова (блогера, які займаецца выкрыццём парушэнняў мясцовых органаў улады) замаўчаць, улады цяпер сканцэнтраваліся на ягоным сыне," - заўважыла Ёхан Бір, кіраўнік бюро "Рэпарцёраў без

межаў" у краінах Сярэдняй Азіі і Усходняй Еўропы. "Мы шкадуем аб гэтым рашэнні, якое пакідае беспакаранай мясцовую міліцыю, і звяртаемся да суда з просьбай перагледзець рашэнне падчас апеляцыі," - падкрэсліла сп-ня Бір. "Рэпарцёры" нагадваюць, што Беларусь з'яўляецца 157-ай па ліку з 180 краінаў свету, прысутных у Індэксе свабоды прэсы за 2014 год, складзенага гэтай міжнароднай структурай.

**4 верасня 2013 г. бацька і сын Жалновы зафіксавалі на відэа парушэнне правілаў дарожнага руху (незаконная паркоўка) супрацоўнікамі міліцыі і звярнуліся з гэтай нагоды з вуснай заявай да супрацоўнікў ДАІ. У выніку абодва апынуліся затрыманыя. Сына блогера абвінавацілі ў парушэнні арт.364 КК РБ - "Гвалт або пагроза застасавання гвалту ў адносінах да супрацоўніка ўнутраных спраў".**

На самога блогера ў лютым 2014 г. таксама была ўзбуджаная справа паводле артыкула 369 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь паводле факту абразы прадстаўніка ўлады ў асабістым блогу.

# СТАТЫСТЫКА

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь пашырыла інфармацыю пра колькасць зарэгістраваных у першым паўгоддзі 2014 г. друкаваных і электронных СМІ. Са студзеня па чэрвень міністэрства зарэгістравала 37 новых друкаваных СМІ, з якіх 9 дзяржаўных і 28 недзяржаўных. За гэты ж перыяд быліануляваныя 16 пасведчанняў пра рэгістрацыю друкавыных СМІ. Адно з іх належала выданню дзяржаўнай формы ўласнасці, а 15 - недзяржаўным СМІ.



Усяго на 1 жніўня 2014 г. у дзяржаўным рэестры зарэгістравана 1556 друкаваных СМІ, 424 з якіх - дзяржаўнай, а 1132 - недзяржаўнай формы ўласнасці.

**З 264 тэлерадыёвяшчальных СМІ (179 - дзяржаўныя, 85 - недзяржаўныя) тры былі зарэгіс-**

**траваныя ў першым паўгоддзі 2014 г. (1 дзяржаўнай формы ўласнасці і 2 недзяржаўнай). Пасведчанне аб рэгістрацыі адной недзяржаўнай тэлепраграмы былоануляванае.**

Рэгістрацыя СМІ, у тым ліку і друкаваных, у Беларусі ажыццяўляецца органам дзяржаўнага кіравання (Міністэрствам інфармацыі) у дазвольным парадку. За 2010-2012 г.г., паводле словаў міністра інфармацыі Алега Праляскоўскага, Міністэрства інфармацыі накіравала заснавальнікам СМІ 105 адмоваў у рэгістрацыі СМІ.

Абсалютная большасць з недзяржаўных друкаваных СМІ з'яўляюцца выключна забаўляльнымі, рэкламнымі і да т.п. Паводле падлікаў ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў", колькасць зарэгістраваных недзяржаўных СМІ грамадска-палітычнай скіраванасці складае на сённяшні момант менш за трыццаць. Амаль палова з іх яшчэ ў 2005 г., напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2006 г., была выкінутая з дзяржаўных сетак распаўсюду газетаў па падпісцы і ў розніцу. Дагэтуль праблемы з распаўсюдам зазнаюць 11 выданняў. Шмат якія выданні, у першую чаргу нацыянальныя СМІ, зведваюць цяжкасці з атрыманнем рэкламы. У ліпені бягучага года ў выніку эканамічнай дыскрымінацыі спыніла выхад грамадска-палітычная газета "Нясвіжскі час", якая амаль 12 год распаўсюджвалася ў г. Нясвіжы і навакольным рэгіёне.

